№ 1 [28] СТУДЗЕНЬ 1950 г.

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ




Часапіс Беларускае рэлігійнае думкі.

«SUR LA VOIE DIVINE».
Mensuel religieux biélorussien.

| Цана нумару 40 фр. | Адрэс рэдакцыі:<br>Adresse : Redaction, 51, rue des S-ts Pères, Paris (6).<br>Chèque Postal : Paris c. 628744. | Падпісная цана на год 350 фр. |
|---|---|---|

# Год Вялікага Наверненьня
## і Вялікага Прабачэньня

**Калядная радыёпрамова Сьвяцейшага Айца Пія XII 23-га сьнежня 1949 г.**

**Чаканьні народаў**

(У некаторых мейсцах скарочана)

Бадай-што ніколі Наша бацькаўскае і пастырскае сэрца так не адчувала, што Вы, дарагія сыны і дочкі, гэтак блізкія да яго, як на сёньняшнім пярэдадні, які адчыняе радасную падзею Новага Юбілейнага Году.

Быццам вось бачым ды чуем — і наша сэрца Нас ня зводзіць — пульсаваньне мільёнаў сэрц вернікаў згодных з Намі маўляў, які безьмежны хор гарачых падзяк, жывых жаданьняў, ды пакорных мольбаў да Айца дарыцеля ўсякага дабра; да Сына адкупіцеля ад усіх правінаў; да Сьв. Духа раздаваццеля ўсіх ласкаў.

Пабуджаныя глыбокім жаданьнем духовага вызваленьня, прываблёныя чарам нябесных дараў, забыўшыся на хвіліну аб зямных нягодах, Вы зьвяртаецеся да Нас, быццам паўтараючы ў добрым сэнсе ды з шчырым намерам малітву, з якою калісь зьвярталіся да Адкупіцеля (Мар. VIII, 11-12; Лук. XI, 16): дай нам знак з неба. Вось-жа «сёньня пазнаеце, што прыйдзе Господ і заўтра ўбачыце Ягоную хвалу». Знак, якога чакаеце сёньня, будзе вам абвешчаны; знак, а вярней спосаб адкупленьня і асьвячэньня дасца вам заўтра-ж у хвіліне, калі нашымі рукамі адымуцца містычная Дзьверы, адчыняючы ўваход у найвялікшую хрысьціянскую сьвятыню, сымбаль Ісуса Збавіцеля, Якога дала нам Марыя, каб усе мы, што належым да Яго, знайшлі збаўленьне: «Я дзьверы, хто ўвойдзе праз Мяне — будзе збаўлёны» (Ів. X, 9).

Ад усяе Хрыстовае Царквы, якая распаўсюдзіла сваіх сяброў па ўсіх краёх нашае плянэты, гэтымі днямі вочы ўсіх зьвяртаюцца ў Рым, на той Апостальскі Пасад нясьсяклую крыніцу праўды, збаўленьня і дабра.

Мы ведаем, колькі вы пакладаеце надзеі на гэты Сьвяты Год. У Нашым сэрцы жыве моцная надзея, што Божы Правід хоча зьдзейсьніць у ім і праз яго цуд свае міласэрнасьці над людзкім родам. І Нас падтрымоўвае надзея, што Ангел Божы не спаткае перашкодаў на сваёй дарозе, але знойдзе яе выраўняную і адчыняныя сэрцы тае добрае волі, якая неба прыхіляе да зямлі.

Мы Самі, каго Божы Правід надарыў прывілеем апавясьціць яго і даць усяму сьвету, прадчуваем яго значэньне для наступаючага паўстагодзьдзя. Нам здаецца, што Сьвяты 1950 Год мае быць вырашальным крокам да пажаданай рэлігійнай абновы мадэрнага сьвету і разьвязкай таго духовага крызісу, які цяпер гнобіць душы. Пажаданае суладзьдзе нябесных і зямных, Божых і людзкіх вартасьцяў, абавязкаў і заданьняў нашага пакаленьня зьдзейсьняцца, а прынамся прысьпешацца, калі Хрыстовыя вернікі вытрываюць у зробленых пастановах, заўзята будуць прадаўжаць распачатую дзейнасьць, ды не паддадуцца зманным пустым утопіям, і не дадуцца зьвясьці сябе з дарогі праз партыйны эгаізм.

Раўначасна Сьвяты Год мае быць вырашальным для будучыні Царквы, якая рупіцца ўнутры зрабіць чысьцейшай сьвятасьць сваіх сяброў і больш пашырыцца ў народзе, а навонках намагаецца распаўсюдзіць і ўдыхнуць свой дух справядлівасьці і любові так-жа і на грамадзкія ўстановы.

**Адчыненьне Сьвятых Дзьвераў.**

Ажыўленыя гэткімі пачуваньнямі і гэткімі жаданьнямі, пранятыя годнасьцю традыцыі, якая сягае часоў нашага папярэдніка Баніфацыя VIII-га, мы заўтра, адчыніўшы трыма ўдарамі малатка Сьвятыя Дзьверы, будзем сьведамы, што выконваем ня толькі чыста традыцыйны акт, але сымбалічны абрад высокага значэньня ня толькі для хрысьціян, але і для ўсяго чалавецтва.

Мы жадалі-б, каб той трыразовы ўдар адбіўся ў душах тых, хто мае вушы для слуханьня (Мат. XI, 15).

Сьвяты Год — гэта Год Божы; Год Бога, Якога маестат і веліч асуджае грэх; Год Бога, дабрата Якога і міласэрнасьць дарыць ласку і прабачэньне тым, каго рад прыгарнуць; Год Бога, Які ў гэтым Сьвятым Годзе жадае яшчэ болей прыхіліцца да чалавека і быць да яго, як ніколі блізка.

Колькі-ж людзей робяць з граху звычайную «слабасьць», а з слабасьці нават цноту! Ужо паганін Салюст пісаў (Катіл. 52): «Мы затрацілі праўдзівы сэнс слоў, бо раздаваньне чужога дабра называем шчодрасьцю, а сьмеласьць рабіць зло называецца адвагаю». Пераніцоўваючы штучна сэнс тэтых слоў у найбольш важных пытаньнях публічнага і прыватнага жыцьця, яны закрываюць тое, чаго ня можа выказаць сумленьне, апраўдваюць тое, што асуджаюць у глыбіні свае душы, запярэчваюць тое да чаго павінны шчыра прызнацца.

А колькі-ж людзей на мейсца праўдзівага Бога ставіць сваіх бажкоў, або нават выказваючы сваю веру ў Бога і гатоўнасьць служыць Яму, робяць сабе з Яго ідэю, якая ёсьць выпладам іхных уласных жаданьняў, уласных імкненьняў, уласных немачаў! Бога ў Ягонай бязьмежнай велічы, у Ягонай найчысьцейшай сьвятасьці, Бога, Якога ласкавасць заўсёды гатовая прыйсьці ім з помаччу, — таго Бога ня шмат людзей пазнае належна. Дзеля таго ёсьць так шмат хрысьціян толькі з прывычкі, так шмат няўважных і абыякавых; а з другога боку, так шмат мучаных і абезнадзееных душ, быццам самое хрысьціянства ня ёсьць тою «добраю весткаю».

Сьвяты Год павінен разьвеяць і вырваць з сэрцаў гэтыя фальшывыя ідэі аб Богу, бо яны зьяўляюцца пустымі выпладамі занадта людзкога думаньня!

**Год вялікага наверненьня і вялікага прабачэньня**

Спантанічная сымпатыя, з якою народы прынялі яго абвяшчэньне, пацьвярджае надзею, пакладаную на яго. Гэта ня будзе крыклівае сьвята, ані прэтэкст да пабожных разьвесяленьняў, ані пустое разгортваньне каталіцкае сілы ў тым сэнсе, як гэта разумее сучасны сьвет, які дасягненьне мерае хвілёвым масавым успрыняцьцем. Сьвяты Год павінен дзеяць больш паважна, сягаць болей у глыб душы, ён павінен пабуджаць і падымаць асабістыя і грамадзкія цноты, павінен паказацца больш нутрана і шчыра хрысьціянскім.

Ён павінен суадказваць таёмнай Божай Волі, ён павінен азначыцца, як год вялікага наверненьня, як год вялікага прабачэньня прынамся ў такой меры, у якой наша эпоха яшчэ ў нядаўнай мінуўшчыне была эпохаю адступніцтва і правіны.

ГОД ВЯЛІКАГА ПАВАРОТУ
**Бацькаўскі заклік**

Таму ўжо сёньня зьвертаем наш голас да ўсяго сьвету, каб усе людзі і кожны паасобна ў кожным краю, на кожным узьбярэжжу, каб з посьпехам уласьцівым таму нязвычайнаму часу, у які цяпер пражываем, выканалі вялікі і чаканы паварот. Хочам, каб Наш заклік быў перш-наперш заклікам Бацькі, які жыве, турбуецца, цярпіць, моліцца і жадае дабра і шчасьця для дзяцей. Усе людзі на сьвеце зьяўляюцца Нашымі дзяцьмі, прынамся сілаю права і з прызначэньня, нават і тыя, якія Нас пакінулі, Нас зьняважылі, якія прычынілі і яшчэ чыняць Нам боль.

Перадусім вы, аддаленыя, прапаўшыя, расчараваныя і раздражненыя сыны, якім зманныя галасы, а можа і павярхоўны пагляд на рэчы вырвалі з сэрца тое пачуцьцё да сьв. Царквы, якое мелі даўней, не адкідайце прапанаванага прымірэньня, якое сам Бог падае вам праз Нас у пару сапраўды знадобную. Будзьце ўжо ад цяпер перакананыя, што дарогі павароту да Бацькаўскага дому ёсьць лагодныя і абыймы, якія вас там чакаюць ёсьць поўныя радасьці.

**Паварот да Бога недаверкаў і атэістаў...**

Хай гэты Сьвяты Год азначае перадусім паварот да Бога тых душ, якія дзеля розных і шматлікіх прычынаў страцілі з вачэй і згасілі ў сэрцы абраз і ўспамін аб сваім Стварыцелю, ад Якога маюць сваё існаваньне, як і існаваньне ўсіх іншых істотаў, і Які зьўляецца іхным найвышэйшым дабром.

Тут успамінаюцца найчасьцей спатыканыя роды бязбожнасьці, але ўсе яны маюць тое супольнае, што церпяць дзеля адлучэньня ад Бога. Найлепшым лекам для іх ёсьць паварот да развагі і здаровага людзкога розуму, які паволі і паступова, але пэўна вядзе да Першапрычыны сусьвету, да Бога Айца, Любові.

### ... і паганаў

Сэрца Нам кажа, што гэты Сьвяты Год убачыць шмат такіх наверненьняў, а таксама ён убачыць наверненьне паганаў на хрысьціянства на місыйных абшарах. Пэўна для вас будзе пацяшаюча даведацца, што ад юбілею 1925 г. да сёньня колькасць хрысьціян у гэных далёкіх краёх больш чым падвоілася, ў некаторых акругах Афрыкі бачная Царква сталася галоўнаю апораю грамадзкага жыцьця, праз свой глыбокі хрысьціянскі ўплыў на публічныя і прыватныя абычаі. Але з другога боку Мы з вялікім болем душы ня можам адвярнуць нашых думак ад цяжкіх небясьпек якія пагражаюць, або якія ўжо глыбока засмуцілі рэлігію і яе інстытуцыі ў іншых краінах Эўропы і Азіі, як, напр. у аграмадным Кітаі, дзе трагічныя закалоты ператварылі агароды квітнеючага жыцьця ў магільнікі сьмерці.

### Паварот грэшнікаў да Ісуса Хрыста

Хай Сьвяты Год азначыць паварот да Збавіцеля Ісуса Хрыста тых душаў, якія зьведзеныя зманлівай прынадай граху астаюцца далёка ад Бацькаўскага дому. На няшчасьце ёсьць веруючыя і каталікі, якіх слабы дух і гэткае-ж цела даводзяць да таго, што ўцякаюць ад сваіх абавязкаў, забываючыся аб сапраўдных скарбах дзеля задаўненьня, або ў прызвычаеным чаргаваньні ўцёкаў і хвілёвых паваротаў. Калі ім здаецца, што жывуць пахрысьціянску, што Богу можа быць мілае жыцьцё без асьвячаючае ласкі ў сэрцы, дык яны сябе ашукваюць.

Дзеля гэтага усіх заклікаецца да павароту і падчыркваецца тую радасьць, з якою іх спаткае Нябесны Айцец, калі прыйдуць да Яго раскаеныя.

### Паварот да Аднае Царквы разьеднаных

О, каб гэты Сьвяты Год мог так-жа прывітаць сапраўды вялікі і вякамі чаканы паварот мноства веруючых у Ісуса Хрыста, адлучаных з розных прычын ад адзінай праўдзівай Царквы! Дух, што прабывае ў сэрцах добрых людзей сёньня з нявыказаным стогнам уздымае быццам благальны кліч малітвы самога Госпада: «Каб усе былі адно» (Ів. 17, 11). Хто ўважна сочыць за тою адвагай, з якою выступае задзіночаны фронт ваюючага атэізму, той сёньня голасна пытае: Навошта сёньня тое далейшае адступніцтва, навошта тыя падзелы? Калі нарэшце настане адзінадушнае злучэньне усіх сілаў духа і любові?

Калі Апостальскі Пасад даўней заклікаў да злучэньня, дык цяпер Мы паўтараем тое яшчэ больш пабацькаўску натхнёныя, як Мы адчуваем мольбамі і просьбамі так шматлікіх вернікаў, параскіданых па ўсім сьвеце, якія перацярпеўшы трагічныя і сумныя пераҗываньні, зьвяртаюць свае вочы да таго Пасаду, як да катвігі збаўленьня ўсяго сьвету. Для усіх Хрыстовых вызнаўцаў, ня выключаючы і тых, якія шчырым, хоць дарэмным чаканьнем уважаюць Яго, як абяцанага, прарокамі, думаючы, што Ён быццам яшчэ ня прышоў. Мы адчыняем Сьвятыя Дзьверы і адначасна абыймы ды сэрца таго айцоўства, якое з неразгаданых Божых намераў было Нам паверана Збавіцелем Ісусам.

### Паварот сьвету да Божых плянаў

Уканцы хай той Юбілейны Год будзе годам вялікага звароту ўсяго людзтва да Божых намераў. Мадэрны сьвет, тым самым спосабам, якім намагаўся скінуць з сябе салодкае Божае Ярмо, адкінуў так-жа Ім устаноўлены лад, і з тою самаю гордасьцю збунтаванага ангела на пачатку тварэньня, намагўся ўвясьці іншы лад, паводля свайго хаценьня.

Блізу па двох стагодзьдзях сумных досьледаў і блуканьняў, тыя, што яшчэ маюць здаровы розум і шчырае сэрца, прызнаюць, што гэткія стараньні і распараджэньні маючыя толькі назоў ладу, але не ягоную сутнасьць, не далі спадзяваных асягненьняў, ані не апраўдваюць прыродных імкненьняў чалавека. Гэнае банкроцтва паказалася на падвойнай ніве: на ніве сацыяльных адносін і адносін між народамі.

### На сацыяльнай ніве

У сацыяльнай справе маскаваньне Божых намераў сягала аж да самых каранёў, дэфармуючы Божы абраз чалавека. Праўдзівы выгляд чалавека, які мае пачатак і прызначэньне ў Богу, быў падменены фальшывым вобразам чалавека, незалежнага ў сумленьні, бескантрольнага законадаўцы, неадказнага перад сабепадобнымі, ані перад грамадзкаю супольнасьцю; вобразам чалавека, прызначэньнем якога ёсьць толькі зямля, ягонай мэтай — толькі насалода дачасным дабром, а нормаю — зьдзейсьнены факт неўпарадкаванага насычэньня свае захланнасьці.

Аднак гэткі лад сёньня ўжо перажывае крызыс. А розныя пазьнейшыя наватворы, якія выйшлі з падобных меркаваньняў, дайшлі яшчэ да горшых вынікаў: да таталітарных дзяржаваў, да узаконненага насільства, да ваюючага бязбожжа. Прыхільнікі гэткіх грамадзкіх сыстэмаў павінны нарэшце зразумець, што толькі хрысьціянская справядлівасць можа давесьці людзей да сапраўднае свабоды і спыніць непатрэбную барацьбу і братнюю нянавісьць. Да тых, якія называюць сябе матэрыялістамі і бязбожнікамі зьвяртаецца Сьвяцейшы Айцец:

Упакораны вы да ўярэмлены, а ўсё-ж якім-бы сумным ня было вашае палажэньне, вы маеце не-

запярэчнае права дамагацца справядлівасьці; іншыя-ж абавязаны прызнаць гэта. Памятайце, што вы маеце несьмяротную душу, ды што вашае прызначэньне ёсьць надпрыродным. Не мяняйце нябеснага, вечнага дабра на прамінаючае і часовае, асабліва ў тую пару, калі ўсюды чэсныя людзі і дбалыя ўстановы, прыслухоўваючыся ўважней да вашага кліччу і разумеючыя вашую драму, здэцыдаваны павесьці вас дарогаю справядлівасьці.

Тут ідзе асьцярога, каб не пакладаць залішне веры і надзеі на людзей, бо людзі часта зводзяць і ашукваюць; веру і надзею трэба пакладаць на Бога, які не абманвае.

Турботы пра дачасныя дастаткі, штодзенны хлеб і памешканьне ёсьць неабходныя, аднак трэба старацца, каб гэтыя турботы не замарочвалі стараньняў аб збаўленьні свае душы і душаў сваіх дзяцей. Найвышэйшае шчасьце ёсьць у небе, для якога нас Бог стварыў. Толькі грамадзтва асьвечанае вераю і захоўваючае Божыя правы, дзе грамадзкія правадыры сьведамыя ў сваім сумленьні, што яны некалі павінны будуць здаваць рахунак перад Найвышэйшым Судзьдзею — такое грамадзтва прызнае слушныя патрэбы сваіх грамадзян і стане ў абароне іхных правоў ды будзе надзейным праваднікам у выкананьні дамашніх і грамадзкіх абавязкаў паводля ступені іхняе важнасьці, устаноўленае самою прыродаю.

Не забывайце, што матэрыяльны дабрабыт бяз Бога, для тых хто гэтага дабрабыту ня мае, стаецца палючаю ранаю, а для таго, хто яго мае зьяўляецца сьмерцяносна зводным. Інтэлектуальная культура і эстэтыка бяз Бога ёсьць ракою адзьдзеленаю ад свае крыніцы, яна ператвараецца ў багна і забузоўваецца пяском ды балотам.

### На міжнароднай ніве

Уканцы спадзяёмся, што падчас Сьвятога Году міжнародная грамадзкасьць вернецца да Божых плянаў, паводля якіх усе народы ў згодзе, а не ў вайне, у супрацоўніцтве, а не ў адасобненасьці, у справядлівасьці, а не ў нацыянальным эгаізме павінны тварыць вялікую сям'ю людзтва, скіраваную да супольнае дасканаласьці ўва ўзаемнай помачы ды роўным распадзеле дабра, якім Бог надзяліў людзей, як скарбам.

Гэты Сьвяты Год зьўляецца асаблівaю нагодаю, заклікаць правадыроў народаў, каб думалі пра мір і каб прычыніліся да брацтва народаў. Наглядным пакажчыкам такога брацтва можа быць Рым у часе сёлетніх паломніцтваў, дзе будуць спатыкацца найбольш розныя нацыянальнасьці ў тых самых сьвятынях і на тых самых багаслужэньнях; і тыя, якія былі прыяцелямі, і тыя, якія былі ворагамі. У гэтых спатканьнях іх натхне Божая ласка стацца першымі змагарамі за мір, і панясуць яны гэтую ідэю ў свае бацькаўшчыны і будуць там здабываць прыхільнікаў Хрыстовага замірэньня, а Бог не дапусьціць, каб гэтае замірэньне было марна зьнішчана.

Гэты Сьвяты Год ёсьць годам нязвычайных ласкаў і таму ў ім можна спадзявацца вялікага звароту.

## ГОД ВЯЛІКАГА ПРАБАЧЭНЬНЯ

### Бог — Міласэрная Любоў

Дзякуючы гэтай спачувальнай і дабрадзейнай любові, якая з Рыму пашырыцца на ўвесь сьвет, кожны паварот да Бога, да Ісуса Хрыста, да Царквы і да Божых плянаў будзе прыпячатаны поўнымі абыймамі міласэрнага Айца, Які прабачае ўсякую правіну і ўсякую кару тым каго любіць. Ісус адкрыў нам праўдзівае аблічча Бога, паказваючы Яго, як Айца, Які прымае, абымае, прабачае сыну блудадзею, калі той засумаваны з поўнаю надзеяю вяртаецца дамоў, адкуль быў лёгкадумна адышоў.

Юбілей ёсьць для людзей пароаю нязвычайнага павароту, а для Бога ён будзе нагодаю да шчодрага і поўнага любові прабачэньня.

### Жаль і пакута

Бог дарue грахі каяньнікам, але не звальняе ад пакуты. Пакута ёсьць неабходна патрэбнаю для адновы чалавека, бо яна азначае спыненьне ўпадкаў, прызнаньне свае грэшнасьці і выяўляе добрую волю. А яшчэ большае значэньне мае супольная пакута, асабліва калі яна робіцца ў злуцы з нашым Збаўцам. Таму Сьвяты Год павінен азначыцца шчырым каеньнем і пакутою. Сучаснае пакаленьне шмат цярпіць. Нязьлічаныя сіраты, удовы, маткі — засумуваныя чакаюць павароту прасьледаваных за праўду, за веру, палонных, выгнанцаў, арыштаваных, безработнах, ахвяраў усякае несправядлівасьці. Мора сьлёзаў і крыві залівае нашу Зямлю — яны ўжо ёсьць пакутаю хоць часта і не за свае грахі, але трэба яшчэ іншае пакуты, каб зьнішчыць віну. Ніхто не павінен ухіляцца ад гэтае пакуты.

### Прабачэньне між людзьмі

Апошнія войны з іхнымі нячуванымі да гэтуль праступкамі і палітычнымі гвалтамі могуць уважацца трагічным выявам адступніцтва ад хрысьціянскага духа. Тымчасам хто хоча быць шчырым хрысьціянінам, павінен умець прабачаць.

Дабрадзейнасьць і міласэрнасьць апёртыя на слушных матывах ня супярэчаць абавязкам правільнага адміністраваньня справядлівасьцю, але ёй супярэчыць неразважная неталеранцыя і дух рэпрэсыяў перадусім тады, калі грамадзкія ўлады караюць таго, хто больш памыліўся, чым правініўся, або калі тая-ж кара, слушна прысуджаная, прадаўжаецца па-за ўсякія разумныя граніцы.

Хай Бог натхняе тым, якія пакліканы да грамадзкае адказнасьці, думкі згоднасьці і замірэньня бяз усякае шкоды для агульнага дабра, хай паложаць канец рэшткам таго вынятковага права, якое доўгія гады пасьля заканчэньня вайны выклі-

кае ў стольківх сем'яў і паасобных грамадзян горкія пачуцьці супраць тае грамадзкасьці ў якой змушаны цярпець.

**Шырокая амністыя**

У імя Ісуса Хрыста Сьвяцейшы Айцец зьвяртаецца да дзяржаўных уладаў з нагоды Сьвятога Году прызнаць магчыма шырокую амністыю для увязьненых і наперад дзякуе тым, якія выслухаюць гэты заклік.

**Запросіны ў Рым**

Да усіх народаў на ўсіх кантынэнтах зьвяртаецца Сьвяцейшы Айцец з шчырымі запросінамі адведаць Рым і ўшанаваць узгор'е сьв. Пятра. Калісь у падобнае падарожжа выбіраліся паломнікі на цэлыя гады, цяпер ёсьць шмат розных дагодных магчымасьцяў хутка адбыць гэтае падарожжа да супольнае бацькаўшчыны хрысьціян.

**Рым — мая бацькаўшчына**

Дзеля таго, што Рым без расовых і кастовых прывілеяў, ён ёсьць бацькаўшчынаю для ўсіх; кожны хрысьціянін можа і павінен казаць: «Рым — мая бацькаўшчына». Тут асабліва праяўляецца надпрыродны Божы Правід для душаў; тут сьвятыя чэрпалі правілы і натхненьне для свайго гэраізму: гэтая сьвятая зямля бачыла трыумфы першых мучанікаў і была ўзгадавальніцаю непераможных вызнаўцаў. Тут непахісная скала, дзе можна будзе закатвіжыць вашы жаданьні; мейсца і стараветны памятнік-трафэй слаўнага гробу Князя Апосталаў, што падпірае жывы пасад Вікарага Хрыста.

У рымскіх сьвятынях ды юбілейных багаслужэньнях паломнікі знойдуць тую атмасфэру, якая можа выклікаць хрысьціянскую абнову. Да рымлян зьвяртаецца Сьвяцейшы Айцец з заклікам быць першымі ў карыстаньні з дабрадзействаў Сьвятога Году і шчыра прыймаць прыездных паломнікаў.

Хай-жа прыме ўсемагутны і міласэрны Госпад гэтыя Нашыя пажаданьні і на вас, слухаючых Нас, на ўсіх людзей добрае волі, на тых, якіх павароту чакаем, хай сыйдзе як зарука шырэйшага нябеснага зьмілаваньня, Наша Апостальскае Багаслаўленьне.

---

# ТЫ І ЯНА

(Працяг 9-ы).

**Разьдзел 6-ы.**

## Незаконныя зносіны.

Мы ўжо бачылі, як нясьпелае каханьне, калі яно ў пару і хутка ня будзе спынена, усёроўна завядзе да граху. Калі-ж яно і ў далейшым падтрымоўваецца праз грэх, тады сходзіцца на іншае бездарожжа, якім маем тут заняцца. Гэтым бездарожжам ёсьць незаконныя зносіны, або незаконнае сужыцьцё. Гэтым назовам азначаюцца тыя грэшныя зносіны, у якіх пазьнейшае сужэнства не бярэцца пад увагу. Мы тут ня зьбіраемся цьвердзіць, быццам кожная незаконная сувязь пачынаецца ад нясьпелага каханьня. Ёсьць шмат такіх людзей, якія ў гадох дасьпяваньня ня мелі ніякіх бліжэйшых знаёмстваў, а пазьней ужо ў дарослым веку адразу пачалі блудзіць ад незаконных зносінаў. Адны з іх адразу складаюць аружжа перад зьмысловымі прывабамі, або іх зводзяць дрэнныя прыклады, падслуханыя гутаркі, кінотэатры, кніжкі-раманы і пад. Другія, каторыя дзеля свайго цяжкага эканамічнага палажэньня вельмі позна маглі-б заняцца сваім сямейным жыцьцём, шукаюць на блуднай дарозе задаваленьня плоцьнага гону, бо барацьба з ім для іх выдаецца непасільнай, або яны ня думаюць зусім сябе чым небудзь зьвязваць. Свае паступкі яны стараюцца апраўдаць сказам, быццам гэты гон немагчыма апанаваць, а прымусовая паўстрыманасьць шкодзіць на здароўе. Ведаем ужо з раней наведзеных высказаў сумленных вучоных і лекараў, колькі ёсьць варты падобныя апраўданьні.

Бяз сумніву трэба з тым згадзіцца, што захаваньне чыстага жыцьця сярод небясьпек сёньняшніх часоў, у атручанай атмасфэры, якая нас акружае, пры агульным нэрвовым аслабленьні так уроджаным, як і набытым — ёсьць рэччу даступнаю і магчымаю толькі для тых, каторыя беззасьцярожна і прынцыпова жадаюць весьці чыстае жыцьцё і адначасна ўжываюць, адпаведных да гэтага і прыродных і надпрыродных спосабаў. Усім тым, хто-б гэтаму супярэчыў, адказам ёсьць дасьведчаньне, якое кажа, што гэта магчыма! Толькі трэба паважна гэтага хацець ды цьвёрда і ўпарта ўзяцца да барацьбы.

Самое паняцьце незаконнае сувязі паказвае, што ў ёй вельмі моцна выяўляюцца ўсе дрэнныя наступствы нясьпелага каханьня. Тут мы абмяжуемся да абгавораньня галаўнейшых з іх.

Малады чалавек, каторы падтрымоўвае незаконную сувязь, робіць бязмэтнымі плоцьныя зносіны. Ён шукае іх для іх самых. Гоны ўзялі ў ім верх. Ня дух і душа кіруюць ягоным целам, але кожны ягоны крок робіцца пад уплывам сэксуальнага інстынкту. Наперакор дамаганьням сумленьня, наперакор голасу здаровае развагі выбірае тое, чаго хоча пажадлівасьць цела. Ён папросту стаецца нявольнікам цялеснае пажадлівасьці.

Калісьці Нітшэ слушна заўважыў: «Датуль ты астаешся вольным, пакуль сабакі ў табе выюць». Змысловыя гоны падобныя да неразумных жывёлаў, каторыя не зьвяртаючы на нішто ўвагі, жадаюць задаволіць сваю юрлівасьць і датуль выюць і яўкаюць, пакуль гэтага жаданьня не заспакояць. Але жывёлы ня маюць ані паняцьця прызваітасьці, ані голасу развагі, якія могуць стрымаць пажадлівасьць. Аднак іх можна муштраваць.

Як сумна глядзець на такога маладога чалавека, каторы ня толькі не бярэ моцна ў рукі тых выючых сабакаў, каб супрацівіцца іхным бяспраўным вымогам і такім чынам апанаваць іх, але наадварот сам стаецца іхным нізкім слугою і на шкоду сваёй душы ўсьцяж заняты толькі думкай, як ім дагадзіць.

Ён стаўся ахвяраю страшнай памылкі і абману, Пажадлівасьці падшэптвалі яму, што задаваленьне іх прынясе яму праўдзівае шчасьце, споўняцца яго лятуценьні. Алс пажадлівасьць можа задаволіць толькі няжэйшую частку чалавека, толькі ягонае цела, але ніколі душы, сэрца. Ледзь прамінула шалёная хвіліна змысловае ўцехі, няшчасьніка ахоплівае пачуцьцё незадаваленьня. Замест шчасьця п'яўкай упіваецца ў душу пустэча, зьнеахвочаньне, прыгнобленасьць. Бываюць такія, каторыя ў той час пад уплывам расчараваньня і абрыджаньня да ўласных праступкаў, зрываюцца, страсаюць ярмо гонаў, каб ізноў стацца валадарамі самых сябе. Аднак большасьць не знаходзіць патрэбнае да гэтага сілы; ня гледзячы на ўнутранае незадаваленьне, стараюцца ў розных забавах і гулях знайсьці дурман і запоўніць тую пякельную пустэчу — яны зноў маняць сябе, што ўсьцяж новыя ды часьцейшае ўжываньне дасьць ім спадзяванае шчасьце. Сіла супраціву ў адносінах да гонаў слабне штораз больш, зразуменьне вышэйшых духовых вартасьцяў губляецца на вачох, заспакаеньне пажадлівасьці стаецца першай мэтай іхняга жыцьця.

Цяжка апісаць тое спусташэньне, якое дзеецца ў сэрцы, у душы, у псыхіцы такога няшчасьніка. Бо юнацтва гэта час дасьпяваньня, час фармаваньня ўнутранага «я» чалавека, і што-ж можа быць горшым, як змысловасьць, якая зводзіць гэтае «я» на агіднае бездарожжа.

Праз незаконную сувязь творыцца нізкае разуменьне адносінаў мужчыны да жанчыны. Тая сіла, каторая адзіная здольная паднясьці і зрабіць больш шляхотнымі адносіны, узаемную пашану, чыстую, Богам даную любоў — трацьіцца. Чалавекам апаноўвае пажадлівасьць, зьвярыная частка плоцьнага гону, маральнае пачуцьцё становіцца дзікім; сорам — далікатнае адчуваньне таго, што выпадае — топчацца. У бальшыні выпадкаў толькі нізкай вартасьці ўпаўшыя дзеўкі годзяцца на такую сувязь. Яны-ж сваімі разбэшчанымі інстынктамі заражаюць думкі і сэрца маладога чалавека. Чаго ня даў-бы пасьля не адзін юнак за тое, каб магчы вырваць з памяці ўсё тое, што сталася.

Праз грэшныя зносіны ў мужчын зьнікае наагул пашана да жанчыны. У ёй ужо ня бачыць сужонкі, сяброўкі жыцьця, маткі — але выключна аб'ект змысловай пажадлівасьці. Ён ня можа больш глядзець чыстым вокам на жанчыну ці дзяўчыну, бо яна яму будзе, або пабуджаць нізкія, брудныя думкі, або ён будзе прыгноблены маральнай вышынёй і чыстасьцю шляхотнай жаночай постаці. У яе прыстутнасьці ня будзе мець супакою.

Больш таго — малады чалавек губляе здольнасьць тае адзінае праўдзівае, глыбокае любові, каторая потым магла-б стацца асноваю яго сямейнага шчасьця. Цяпер ён марнуе патрэбныя пачуцьці для тае любові, а потым у адносінах з сужонкай будуць вырынаць нахабна і з дакорам успаміны даўняй распусты. Дзеля таго малады чалавек дапускаецца амаль праступства адносна свайго будучага шчасьця, калі ў незаконнай лучнасьці марнуе першыя далікатныя праявы свайго сэрца для нягоднай асобы і то так, што для будучай сужонкі, каторую павінен кахаць, астануцца толькі марныя рэшткі таго сэрца.

Іншай прычынай, каторая ўводзіць закалот у пазьнейшае шчасьце сужонкаў, муіць яго, а часам нават зусім забівае — ёсьць тыя абставіны, што хлапец ня можа забыцца зусім прадмету даўных пачуцьцяў. Да істоты любові належыць, што ніколі ня можа забыцца таго, хто раз быў прадметам яе пажаданьня. Калі раз даецца камусьці сваё сэрца, нельга ўжо пасьля забраць яго цалкам, не пакінуўшы з яго нешта. А поўнае, глыбокае шчасьце сужонкаў вымагае поўнага ўзаемнага самааданьня без засьцярогі і без падзелу. Любоў ёсьць завідушчая і жадае, каб каханая асоба належала да яе аднае і да нікога больш.

Зрэштаю ў кожным сужэнстве могуць здарыцца разьбежнасьці пaглядаў, непаразуменьні, расчараваньні; нікога няма вольнага ад нястачаў і ваdaў; найлепшае сужыцьцё можа сапсаваць і замуціць гнеў, незадаваленьне, ці кепскі настрой. Аднак, калі муж і жонка дасканала ведаюць, што яны беззасьцярожна і ўпоўні належалі і належаць да сябе, тады хутка дойдуць да згоды. Затое можна спадзявацца вельмі паважнай небясьпекі ў тым выпадку, калі выявіцца, што адно з сужонкаў, а яшчэ горш калі абое, захоўваюць прыязныя зьвязкі маладосьці, калі ў іх сэрцах тляцца ўспаміны мінулага. Тады вельмі-ж лёгка можа прыйсьці ў голаву думка: Напэўна ніколі не дайшло-б да такіх гісторыяў, калі-б я ажаніўся з тою; калі-б я выйшла замуж за таго! Яшчэ горш, калі адно, або другое жаліцца перад даўным прыяцелем, ці даўнай прыяцелькай. Замест шукаць узаемнага выбачэньня, зьвяртаюцца да іншых даўных павернікаў сэрца, і бязодня капаецца між сужонкамі.

Ці мала ёсьць такіх выпадкаў, што дзяўчына нават з вельмі добрага дому, вышаўшы замуж, некалькі тыдняў пасьля шлюбу, дзеля малаважнага непаразуменьня з мужам, пакідае яго ды йдзе да даўнага сябры маладосьці.

Адзін селянім трымаў удома заражаны пісталет і казаў: «Гэта для мае жонкі, калі яшчэ раз захочацца ёй пайсьці да таго».

Шматлікія страшэнныя сямейныя трагэдыі маюць свае карані ў даўным грэшным каханьні.

У натуры незаконнай грэшнай сувязі маецца і тое, што пры зносінах робяцца старанні, запабегчы іхным наступствам. Аднак ня гледзячы на гэтыя стараньні, заўсёды астаецца страх, што тыя непажаданыя наступствы калісь могуць зьявіцца. Лепш аб тым не гаварыць, як гадкімі і нягоднымі ёсьць тады паводзіны, да каторых змушае іх асьцярожнасьць. Пры ўсім тым ніколі няма пэўнасьці, ці адна хвіліна забыцьця не прывядзе да няшчасьця. Лекары маглі-б расказаць шмат аб тэтых няшчасьніцах, якія засаромлена прыходзяць да іх, поўныя неспакою і страху, ды часта нават стаўшы на калені, моляць іх: «Дохтар, памажэце мне, ратуйце мяне! Я не магу паказацца ўдома. Бацька мяне выкіне за дзьверы, а матцы сьлёзы выядуць вочы! Памажэце мне!» Ясна, не задумоўваецца яна тады над тым, што тое, чаго жадае, ёсьць звычайным забойствам, да чаго чэсны лекар ня прыложыць свае рукі. Што-ж тады рабіць?

Некаторыя ў роспачы зьвяртаюцца да лекара бяз сумленьня, да асобы ведамай. маркі.

Аб тым запабяганьні, аб каторым тут мова, праф. д-р. М. Лябгардт дырэктар жаночага шпіталю ў Баль, піша: «Нават найлепшы лекар ня можа запэўніць, што матка дзеля такога запабяганьня ня выстаўляецца на вялікую небясьпеку і што яна агулам яе перанясе». Праф. д-р Зігварт з Бэрліна кажа: «Доўгагадовае дасьведчаньне паказвае, што выпадкі, калі ў выніку зробленае апэрацыі маткі трацяць здароўе, або нават і жыцьцё, ня ёсьць такія рэдкія і часта мы змушаньня рабіць трудныя апэрацыі». Тайны раднік праф. д-р Брумм з Бэрліну піша: «Пагаджаюся ўва ўсіх пунктах з доказамі праф. Зігварта... ў апошніх тыднях я займаўся чатырма выпадкамі вельмі паважнага захварэньня, з каторых адзін закончыўся сьмерцю». Праф. Абдэргальдэн з Галь кажа: «Такія захады раўназначны цяжкай катастрофе для ўсяго арганізму. Толькі ў выняткoвых шчасьлівых абставінах выходзіцца з яе бяз трывалых натупстваў.» Аднак гэта не ад нас залежыць. Цьверджаньне некаторых, быццам тут маецца дачыненьне з захадамі, якія ў сёньняшніх адносінах ня маюць большага значэньня, ёсьць у крыклівай супярэчнасьці з фактамі. Кожны такі захад цягне за сабою паважную небясьпеку».

Паводля афіцыяльнае статыстыкі ў Нямеччыне штогод памірае больш дзесяці тысяч асоб у выніку гэткіх захадаў.

Царква з свайго боку гэткія захады ўважае за роўназначныя з забойствам і выклінае ўсіх, хто толькі спрычыняецца да іх зьдзейсьненьня. Дзеля таго кожнае стараньне, дазвол, супрацоўніцтва, дараджваньне і нават сам намер, каб выканаць дзецябойчую апэрацыю ёсьць цяжкім грахом, ня гледзячы на тое, які будзе вынік. Дзяржаўнае права за гэткія правіны карае турмой.

Можна тады ўявіць, якую трывогу, якое пекла душы перажываюць маладыя людзі, калі выконваюць такія захады. Калі гэта ім удасца, дык ляжа каменем на іхным сумленьні на ўсё жыцьцё сьведамасьць забойства роднага дзіцяці. Але як мусіць дакараць сабе малады чалавек, калі справа ня ўдасца! Магчыма няшчасная дзяўчына ня мела ані часу, ані нагоды, каб упарадкаваць сваё сумленьне і бяз прыгатаваньня станула на парозе вечнасьці з таўром забойцы. Або, калі аднойчы дойдзе да яго вестка, што яго дзяўчына ў роспачы налажыла на сябе руку, што дзесьці з вады выцягнулі яе мёртвае цела! Калі пасьля закапаюць у магілу гэтае халоднае, абясчэшчэнае цела, разам з ім закапаюць назаўсёды супакой сумленьня спакусьніка. Пасьля гэтага ён можа, як Каін, шукаць супакою па ўсім сьвеце і ня знойдзе ніколі.

А калі дзіця ўбачыць сьвет, дык яно будзе крыніцай мукаў сумленьня. Бо ці-ж можа быць больш прыгнобленая сьведамасьць ад тэй, калі сумленьне кажа чалавеку: Гэтае дзіця ёсьць плодам мае грэшнае пажадлівасьці, вечны памятнік мае немаральнасьці! А ці менш страшэнным ёсьць жыцьцё самога дзіцяці, калі яно падрасьце і ў пэўным часе даведаецца, што тэта значыць, ня мець бацькі.

У 1910 г. лекар знайшоў у пакоі маладога чалавека, які куляй рэвальвэру закончыў сваё жыцьцё, ліст у якім пісалася: «Да мае маткі! Ужо ўсё канчаецца... Годзе! Яшчэ толькі канчатковы акорд. Аднаго толькі праклінаю: Майго бацьку!..» Ён быў незаконным дзецям (крапіўнікам).

Падобна ўзварушаючымі былі словы 19-цігадовага юнака: «Ня ведаю, хто ёсьць маім бацькам. Матка жыве, але яе ня знаю. Яшчэ яе ня бачыў. Але калі дарасту, дайду хто яна і знайду да яе шлях. Калі мае сябры ў нядзелю выходзяць ў горад, я часта кідаюся на ложак і выю, бо ня маю чалавека, з якім магу разьвеяць сваю тугу, бо я адзінокі ў сьвеце, як палец!»

А матка? Здараецца часта, што бацькі яе выракаюцца і яна гіне ў бядзе і паніжэньні. А хоцьбы нават так ня здарылася, дык сонечнае шчасьце, пагодная ўсьмешка, сьведамасьць чыстага сумленьня і нясплямленае чэсьці — згінулі ў ёй назаўсёды. І ўсё гэта дзеля таго, што малады чалавек не апанаваўся! Ён не патрапіў прывыкнуць

акелзваць свае хаценьні і гоны. Ці гэта магчыма апраўдаць перад уласнум сумленьнем і перад векавечным Судзьдзёю?

Хоць-бы наступствы ня былі гэтак пагубныя, іх аднак прадбачыць немагчыма. Наступствы ня ў руках чалавека, дык трэба быць гатовым на ўсё. Гэта азарт у якім вырашае прыпадак. А на карту трэба ставіць шчасьце ўсяго жыцьця, сваю чэсьць, супакой сумленьня, сваю душу і яе збаўленьне; а тое, што здабываецца коштам гэткае рызыкі гэта некалькі змысловых цьмяных захапленьняў затручаных горычу сьведамасьці граху, што муціць чалавеку чыстую радасьць сужэнства.

Варта зьвярнуць увагу яшчэ на іншыя абставіны, якія не аднаму мужчыне атруцілі, або зьвіхнулі жыцьцё, ставячы яго ў вельмі клапатлівае палажэньне. Бацька незаконнага дзіцяці правам забавязаны плаціць алімэнты на ўтрыманьне дзіцяці да 16 гадоў, або і даўжэй. Гэтыя праўныя забавязаньні няраз выкарыстоўваюць нячэсныя дзеўкі, каб вымусіць ад неасьцярожнага хлапца грошы, або шлюб. Перад судом выстарчае пасьведчаньне дзяўчыны, калі абвінавачаны ня можа даказаць сваю нявіннасьць, каб быць засуджаным. Для прысуду даволі, калі будзе даказана што ён быў з ёю на адзіноце.

Адзін юнак на запросіны свайго сябры адведаў дзяўчыну, з каторай той меў ўжо не адзін раз зносіны. Да граху не дайшло. Хутка пасьля гэтага сябра павінен быў выехаць на фронт і загінуў. Дзяўчына-ж радзіла дзіця і абвініла нявіннага юнака. Яго сьведчаньне аб зносінах дзяўчыны з ягоным сябрам, які загінуў на вайне, суд ня прыняў пад увагу, бо дзяўчына становўка гэтаму запярэчыла. І прысудзілі нявіннаму плаціць алімэнты.

Іншы хлапец, каторы праводзіў нейкую кэльнэрку, трапіў у падобную пастку. На шчасьце змог выказаць пасьля на судзе беспадстаўнасьць абвінавачаньня і быў апраўданы.

Падобных прыкладаў можна знайсьці бяз ліку.

Словам адусюль за грэх чакае няпрыемнасьць і кара і колькі душэўнае трывогі мусіць перажываць такі малады чалавек, які павінен аглядацца на магчымасьць, што ўсё яго лёгкадумства можа выйсьці на дзённае сьвятло!

Але глянем яшчэ на асабліва прыкрыя наступствы для зьведзенай маладой дзяўчыны. Перадусім яна стаецца забаўкаю найгоршага сорту, з каторай гуляе пажадлівасьць. Распусьнік уважае яе не за чалавека, але за прыладу, якая служыць для заспакаеньня ягоных найніжэйшых інстынктаў. Ён не зьвяртае ўвагі на яе душу, на яе долю. Калі яе не патрабуе, або яму надакучыла, кідае яе, як дзеці ляльку, каторую яшчэ ўчора галубілі. Аб яе долі яму галава не баліць.

Пэўна-ж часта гэта ўжо ўпаўшыя дзяўчаты, якія ўвайходзяць у незаконныя зносіны. Гэтую праўду яскрава падчыркнуў калісь Гэтэ, кажучы: «Калі мужчына зробіць адзін крок да ўпадку, — упаўшая жанчына тысячу крокаў сьпяшыць яму на спатканьне». Аднак гэта не дае ніякага права хлапцу, каб іх псаваць яшчэ горш і сьпіхаць яшчэ глыбей у протхлу грахоўнага бруду. Калі-б гэткія дзеўкі сустрэлі маладога чалавека, каторы сваім абыходжаньнем вярнуў ім пачуцьцё годнасьці, не адна-б з іх завярнулася з кепскае дарогі і распачала-б новае жыцьцё.

Але нажаль часта можна спаткаць дзяўчат нясьведамых, лёгкадумных, каторыя пад уплывам розных дурных і бязглуздых гутарак жадаюць «пакаштаваць жыцьця». Трэба прыняць пад увагу, што найчасьцей імі кіруе ахвота ісьці за нахілам сэрца, каб мець свайго залётніка-ухажора, тады, калі мужчына шукае сэксуальнага задаваленьня. Усёю чульлівасьцю свайго жаночага сэрца, хінецца дзяўчына да каханага і гэтая прывязанасьць запускае глыбока карані ўва ўсе яе думкі і пачуцьці. Дзеля свае недасьведчанасьці яна ўяўляе, што яе каханы ня здольны яе зрадзіць. Ані можа, ані хоча верыць, каб мог яе пакінуць і дзеля таго годзіцца на ўсе яго жаданьні. Тымбольш балючае пасьля для яе расчараваньне, калі каханы сарве зносіны; тымбольш тады жарстока мучыцца яе сэрца. Не адна гадамі не магла перахварэць таго, што яе пакінуў. Іншыя расчараваныя такімі паводзінамі, пачынаюць сумнявацца аб усім, нават аб Богу і сьв. Царкве. Яны ня могуць пагадзіцца з тым, што чагосьці падобнага можа дапусьціцца каталік.

Гэтага кароткага апісаньня даволі, каб зразумець, якое страшэннае зьнішчэньне спрычыняюць грэшныя зносіны ў душы і для цела дзяўчыны. Аднак найболыш церпіць тая, каторае любоў не асталася бяз наступстваў. Патрасаючы абраз такога цярпеньня апісвае Гэтэ ў «Фаўсьце». Зьведзеная Грэтхэн моліцца перад абразом Маці Божай Цярпячай, але сумленьне ёй увесь час не дае супакою, асабліва яно даймае яе ў часе хаўтурнага багаслужэньня ў катэдры. Яе далейшы жыцьцёвы шлях вядзе ў турму, дзе ад цярпеньня траціць розум. Канчаецца яе жыцьцёвы шлях на шыбеніцы — такі фінал яе любоўных зносінаў з Фаустам, а сам Фауст выходзіць непакараны. Так яно здараецца і сёньня.

Янка Купала ў «Раскіданым гнязьдзе» яшчэ больш праймаюча змаляваў трагэдыю зьведзенае простае дзяўчыны. Бедная беларуская дзяўчына Зоська стаецца ахвяраю залётаў Паніча і да тае ступені засьляпліваецца ў ім, што нават сьмерць бацькі, выкліканая жарстокасьцю Паніча не апамятала Зоські. Але канец гэтым залётам прыходзіць як звычайна скора: Паніч, нацешыўшыся, кідае няшчасную і тая ў роспачы хоча налажыць на сябе рукі, а калі яе ратуюць ад сьмерці, дык

ад роспачы траціць розум, а Паніч спакойна едзе жаніцца за мора.

Страх падумаць, колькі бывае няшчасьця, калі такія зьведзеныя дзяўчаты выйдуць потым замуж і стануцца маткамі! Ці-ж не жалюгодныя тыя бедныя дзеці, каторых маткі маюць за сабою такую няслаўную прошласьць? Якім шляхам пойдзе тады ўзгадаваньне? Дзеля таго, што ўнутраны настрой маткі мае аграмадны ўплыў на фармаваньне душы дзіцяці, трэба баяцца, што небясьпечныя нахілы маці будуць сумнай спадчынай яе нашчадкаў.

Гэтак яно ідзе: няшчасьце, пракляцьце, маральныя румовішчы — ёсьць неаддзельным вынікам незаконных зносінаў і гэта для абох спаўвінаватых. Гэта толькі небясьпечны самаабман маладога чалавека, каторы думае, што незаконная сувязь зьяўляецца нечым нядобрым толькі з некаторага гледзішча, але для яго самога яна няшкодная. Няпраўды! Уся ягоная істота на гэтым траціць вельмі шмат. Ён сам паніжаецца на ўзровень раба сваіх гонаў. На мейсца спадзяванага шчасьця ў душу яго заглядае пустэча і незадаваленьне, ягоная пачуцьцёвая частка дзічэе; маральнае адчуваньне таго, што можна, а чаго ня можна — тупее; пашана да кабеты занікае; ён сам становіцца няздольным да сапраўднай, адзінай, глыбокай любові, каторая магла-б стацца асноваю яго сямейнага шчасьця. Даўныя зносіны могуць стацца перашкодаю для будучай сужэнскай згоды. За ім гоніцца той заўсёдны сполах натуральных наступстваў, каторыя спрычыняюць нязносвае прыгнобленьне і неспакой. Подла адносіцца да дзяўчыны, каторую ўважае за бяздушную прыладу роскашы, бяздумна псуе яе і робіць, гаротнай, няшчаснай.

Трэба падчыркнуць, што наступствы, аб якіх тут мова, ня ёсьць нечым вонкавым, што можна страсьці з сябе маўляў той вулічны пыл з ботаў. Не. Яны глыбока ўядаюцца ў душу і пакідаць незацёртыя сьляды на ўсё жыцьцё. Страшэнная адказнасьць лажыцца на такога праступніка і хаця-б ён у сталейшых гадох і шкадаваў і пакутаваў за свой праступак, зробленае раней крыўды гэтым ён ніколі ня зможа папавіць, ані так выраўняць, каб не асталося рэшткаў даўгу. Замест Божага багаславенства заслужвае сабе на цяжкую кару. Сьведамасьць даканага бясправўя цьмяніць яму ўспаміны маладых гадоў і цяжыць на душы каменем. Час ад часу яна вырынае з сутанку мінулага і становіцца перад вачыма духа, каб яго дакараць і гнобіць. І калі пры гэтым разважыцца, што апрача каротка трывалага, нявыразнага пачуцьця роскашы нічога іншага за тыя зносіны не прыдбаў, дык трэба сказаць, што для такое карысьці даводзіць сваю долю і долю дзяўчыны да руіны ёсьць праступствам, каторага нічым ня можна апраўдаць.

Паводля кніжкі Шільгэна «Du und Sie»
апрацаваў **Васіль Друя**.
(Працяг будзе).

# Патронка Беларусі

Даўней ня толькі кожная краіна, але нават кожны горад, кожная арганізацыя, а рыцары дык кожна з асобна мелі сваіх нябесных апякуноўпатронаў. Гэты пабожны звычай яшчэ ў сіле і сёньня хоць і не ў такой ступені, як калісь. Сёньня кожная хрысьціянская краіна мае аднаго або некалькі сьвятых, якіх уважае за сваіх нябесных заступнікаў перад аблічам Усявышняга. Асабліва ў тых цяжкіх мамэнтах, калі краіна адчувае, што яе дачасныя сілы і дачасныя апякуны зьяўляюцца недастатковымі, народ зьвяртаецца да сваіх нябесных апякуноў з мольбамі аб помачы.

Паводля гэтага агульнага звычаю і Беларусь з даўных давён мела некалькі сваіх нябесных сьвятых апякуноў-патронаў: сьв. Еўфрасінню-Прадславу Полацкую, сьв. Параскеву Полацкую і сьв. Казімера. З бегам часу культ сьв. Казімера на Беларусі пашырыўся толькі між рыма-каталіцкім насельніцтвам, набіраючы асаблівага характару ў Віленшчыне і Лідчыне. Аднак і там сьвята Казюка сталася больш кірмашовым днём.

Культ сьв. Параскевы быў калісь вельмі пашыраны па ўсёй Беларусі; з дазволу духоўнае ўлады яе ўсюды лічылі патронкаю краю. Аднак таму, што дзень яе памяці сьвяткаваўся таго самага дня, што і сьв. Параскевы званае Пятніцаю (яна была замучаная ў 290 г. у Іконіі падчас праследаваньня Дзіокліціяна) дзеля гэтага пасьля скасаваньня Уніі расейскія ўлады лёгка змаглі перанесьці культ сьв. Параскевы Полацкае на асобу сьв. Параскевы Пятніцы, культ якое і сёньня вельмі пашыраны на Беларусі, а сьв. Параскева Полацкая мала дзе ўспамінаецца.

Культ сьв. Еўфрасіні, як аб гэтым гаварылася раней, таксама не заўсёды быў на аднолькавым узроўні, што аднак для нас важна, дык гэта тое, што яна з найдаўнейшых дзён і аж да сёньня заўсёды лічылася галоўнаю патронкаю Беларусі, як аб гэтым успамінае а. Іван Мартынаў у сваім творы (пісаным палаціне) «Царкоўны грэка-славянскі год» на стр. 138.

Нельга дакладна азначыць дату, ад калі беларусы пачалі ўважаць сьв. Еўфрасінню патронкай краю, але можна дагадвацца, што гэта сталася ад самага пачатку яе культу на Беларусі. Выбіраючыся ў Ерузалім, сьв. Еўфрасіня пацяшала сваіх

суродзічаў, што не пакідае іх, але йдзе маліцца за іх. Гэтыя разьвітальныя словы глыбока запалі ў душы палачан. Жывой сьв. Еўфрасіня з Еруза-ліму не вярнулася; нават яе мошчы доўгія стаго-дзьдзі аставаліся на чужыне — таму ўвайшла ў сілу і ў векавую традыцыю яе абяцанка: маліцца за родны край. Сама сьвятая ўзяла на сябэ гэткі абавязак. Хараша кажа аб гэтым Н. Зорин у сваім творы: «Минувшее и настоящее г. Полоцка», што «Нябесная Апякунка Беларускага Краю сьв. княжна Еўфрасіня. паводля слоў паэта

Шматпакутны вобраз айчыны далёкай
Захоўвае вечна у мроях глыбока. (стр. 39)

Пасьля ўпадку беларускае дзяржаўнасьці ўсе акупацыйныя ўлады, якія па чарзе зьмяняліся на Беларусі сваею рэлігійнаю палітыкаю паважна прычынілася да заняпаду рэлігійнага жыцьця на Беларусі. Гэта ў сваю чаргу адбілася вельмі паважна на кульце сьвятых роднага краю; некаторыя зусім пайшлі ў няпамяць, іншыя ўспаміналіся толькі ў некаторых ваколіцах. Калі-ж настаў час беларускага адраджэньня, дык адраджэнскі рух хутка пашырыўся так-жа на беларускай рэлігійнай ніве. З гэтага часу датуецца сьціплая, але вельмі важная зацемка ў часопісе «Крывічанін» Нр. І з 1918 г. на стр. 16, якая быццам аднаўляла старыя традыцыі, кажучы: «Ня ўсім ведама, што патронкай Беларусі зьяўляецца сьв. Еўфрасіня-Прадсалва княжна Полацкая ігуменя манастыра сьв. Спаса...» Пасьля 32 г., калі быў напісаны гэты сказ, шмат зьмянілася ў беларускім грамадзкім і рэлігійным жыцьці. І зьмянілася ў тым. кірунку, што цяпер на чэсьць сьв. Еўфрасіні, як патронкі Беларусі будуюцца беларускія сьвятыні нават на эміграцыі, яе сьвяты абраз шторaз часьцей красуецца на беларускіх нацыянальных сьцягох, імя яе вымаўляецца з пабожнай пашанай, а яе асоба зьзяе, як будуючы прыклад хрысьціянскага жыцьця.

Для закранутае тут тэмы варта зацеміць, што ўканцы XIX стаг. і асабліва між першаю і другою сусьветнымі войнамі ў Зах. Беларусі польскія ўлады рабілі шмат стараньняў, каб пашырыць культ сьв. Андрэя Баболі, як патрона Беларусі. Відаць з гэтаю мэтаю перанесьлі сьвяткаваньне ягонае памяці на 23 травеня — актаву ягонае сьмерці 16-V, аб чым зазначана ў кананізацыйным дэкрэце. Аднак таму, што гэтыя стараньні найчасьцей праводзіліся такім чынам, быццам асобаю сьвятога мучаніка меўся асьвяціць палянізацыйны наступ на Беларусь—вынік іх быў зусім адваротны да таго, які сабе намецілі нашы суседзі. На Беларусі сьв. Андрэй Баболя ўважаўся патронам Польшчы. У беларускіх рыма-каталіцкіх календарыюмах ягоная памяць успамінаецца 16-V бяз ніякіх азначэньняў.

Гэткім чынам сёньня астаецца адзіная сьв. Еўфрасіня-Прадслава, як нябесная патронка Беларусі. Для народу гэты факт тымбольш важны, што яна прызнаная сьвятою і ў Каталіцкай і Праваслаўнай Царкве. Да таго яе постаць на толькі велічная і крыштальна-чыстая, што нават бязбожнікі вышукваючы розныя закіды супраць усходнеславянскіх сьвятых у кнізе Паозерскага «Русские святые перед судом истории» не знайшлі ў асобе сьв. Еўфрасіні ніякае прыдзіркі ані плямы.

Калісь Фр. Багушэвіч паясьняючы назоў нашаго краю, гаварыў, што Беларусь у сваёй гісторыі ёсьць бездакорна чыстаю. Такою-ж ёсьць наша нябесная патронка.

**а. Л. Гарошка.**

# Цэркві, якія праваліліся скрозь зямлю

Між шматлікімі стараветнымі беларускімі пераказамі і лягэндамі зьвяртаюць на сябе ўвагу пераказы аб цэрквах і цэлых гарадох, якія калісь ў сівай мінуўшчыне мелі праваліцца скрозь зямлю. Цікава, што ў некаторых ваколіцах гэткіх пераказаў ёсьць шмат, напр., у Віцебскай акрузе, у іншых ваколіцах менш, але яны спатыкаюцца амаль па ўсёй Беларусі.

Звычайна гэтыя лягэнды розьняцца адна ад другое некаторымі драбніцамі ў пераказах; самыя мейсцы зьвязаныя з гэтымі лягэндамі так-жа розьняцца між сабою: адны з іх гэта вазёры, другія — узгоркі, іншыя — роўныя мейсцы з упадзінамі.

Аднак не зважаючы на дробныя розьніцы, усе гэтыя пераказы маюць шмат супольнага. Ува ўсіх гаворыцца, што цэркві і людзі, якія разам з імі праваліліся скрозь зямлю, не загінулі. Яны жывуць далей у таёмным падземным сьвеце, далей моляцца там. Час ад часу чулае вуха можа пачуць іхны сьпеў. Кожны пераказ канчаецца пракананьнем, што некалі прыйдзе час і гэтыя запаўшыя цэркві зноў выйдуць з-пад зямлі на дзённае сьвятло.

У Віцебскай акр. ля в. Вялішковічы 3 км. у бок ад м. Яновічы ёсьць крутая неаброслая гара ля в. Гарадок. Там калісьці мела быць царква, якая завалілася разам з людзьмі ў зямлю ў часе чытаньня Эвангельля. Аднойчы ваколічныя людзі хацелі яе адкапаць, быў нават ужо паказаўся шпіль, але раптам зноў усё завалілася. Аднак яна некалі мае такі выйсьці. Лёгшы на зямлі там можна пачуць набажны сьпеў.

Амаль зусім падобны пераказ зьвязаны з грудам, які ёсьць між вёскамі Раўкі і Сухаўляны Гарадзенскае акругі. Там, так-жа мела быць царква, якая разам з людзьмі запалася ў зямлю.

А вось возера Сьвіцязь каля в. Плужаны ў

Наваградчыне, дык мае быць мейсцам ня толькі запаўшае царквы, але цэлага гораду, які запаўся ў зямлю на малітву сьвіцязянак, што не жадалі трапіць у няволю. І гэты горад мае некалі ўстаць зноў. Мяйсцовыя людзі апавядаюць, што пасьля скасаваньня Уніі ў лесе каля возера доўга хаваўся стары уніяцкі сьвятар, які гутарачы з падарожнымі і ваколічнымі сялянамі часта паўтараў: «Памятайце, дзеткі, што прыйдзе некалі час, калі Вільня ўтане, а Сьвіцязь устане». (Вільня была аседкам адступніка мітр. Семашкі).

Перад першай сусьветнай вайною ў ваколіцы Сьвіцязі была шырока разышлася вестка, што адна дзяўчына, пасучы над берегам возера сваю кароўку, знайшла нейкі напоўразьвіты клубок. Падняла яго і давай зьвіваць — нітка цягнулася з возера. Зьвівала, зьвівала, аж бачыць, што з возера пачалі паказвацца крыжы царкоў і вярхі дамоў. Зьлякалася здяўчына і выпусьціла клубок з рук. Усё з грукатам запалася назад і нейкі голас з енкам жаліўся на яе, што збаялася і ня выратавала гораду і што трэба будзе чакаць доўга да другое такое нагоды ратунку.

Гэта толькі для прыклыду падаецца гэтых пару лягэндаў, а іх ёсьць шмат.

Гістарычная вартасць гэтых лягэндаў, так як і кожных падобных пераказаў, амаль ніякая, але ўзгадаваўчае значэньне яны маюць не малое. Ува ўсіх гэтых лягэндах ня цяжка ўбачуць адну супольную думку — гэта тое моцнае перакананьне народу, што некалі надыйдзе час уваскрасеньня для старых слаўных народных традыцыяў. Яны сёньня падобна да тых царкоў, хоць і запаліліся пад зямлю, аднак не загінулі зусім.

**А. Гарабурда.**

# У чырвоным Кітаі

Нацыянальныя сілы Кітаю, зьняможаныя доўгатрывалімі нутранымі войнамі і вайнюю з Японіяю, ня вытрымалі камуністычнага наступу і вось мы зьяўляемся сьведкамі, як за параўнаўча кароткі час чатырыстамільённы народ знайшоўся пад уладаю камуністаў. Як прыняў сьвет гэтую зьмену? — Вялікія і малыя дзяржавы прынялі да ведама дакананы факт і пачынаюць навязваць дыплёматычныя адносіны з новым урадам, чакаючы пакуль чырвоны дракон выцягне свае кіпцюры па новую ахвяру.

Для зразуменьня паводзінаў сучаснае дыпляматыі, варта ведаць, якая ўлада заводзіцца ў Кітаі, што яе так хутка прызнаюць іншыя. Нас найбольш цікавіць, якія адносіны сучаснае камуністычнае кітайскае ўлады да рэлігіі. У гэтай справе міжнародная агенцыя «Фідэс» паведамляе:

«Камуністы ў Кітаю заяўляюць, што яны маюць трох ворагаў: Каталіцкую Царкву, Злучаныя Штаты Паўн. Амэрыкі і Куо-Мін-Танг (Нацыянальны кітайскі урад). Бачым, што ў пералічэньні ворагаў Каталіцкая Царква стаіць на першым мейсцы. Гэта вораг Нр. 1 і яна мусіць быць зьлiквідавана ў першую чаргу.

Перш-на-перш камуністычная ўлада пастанавіла пазбыцца **місыянароў**-чужынцоў, ствараючы для іх немагчымыя ўмовы жыцьця. «Я ведаю аднаго эўрапэйскага сьвятара, — піша наш карэспандэнт, — які дзеля таго, каб магчы аставацца між сваімі вернікамі і не абцяжваць іх сваею асобаю, стаўся земляробам і ўласнаручна абрабляў 3 му (менш чым адзін гэктар) поля, з чаго ён жыў праз 3 месяцы. Спачатку камуністы ўважалі яго за гэроя і дазволілі яму адведваць вернікаў, але пасьля двох месяцаў замкнулі яго ў сваім лягэры і забаранілі хрысьціянам адведваць яго без спэцыяльнага на гэта дазволу. На пратэсты місыянара яны адказвалі, што маюць абавязак дбаць аб ягонай бясьпецы і таму могуць дапускаць да яго толькі тых асобаў, за якія яны могуць быць пэўныя.

У іншых выпадках, і гэта здараецца найчасьцей, камуністы зьбіраюць іншаземных сьвятароў у вялікіх гарадох і там паралiжуюць іх працу да тае ступені, што місыянары, зьняможаныя доўгаю бязьдзейнасьцю, ўканцы самі просяць дазволу ад уладаў, выехаць з краю. Гэткі дазвол даецца пасля доўгіх фармальнасьцяў і пры гэтым, атрымоўваючы такі дазвол яны з немалым зьдзіўленем чуюць з вуснаў урадоўцаў вялікае спачуваньне, што місыянар пакідае вызвалены Кітай. Але выехаўшы раз з Кітаю, яны ўжо ніколі не атрымоўваюць дазволу вярнуцца туды назад. Нават тыя, якія ў часе баёў у паўночным Кітаю былі пераехалі ў Шанхай, дарэмна стараюцца атрымаць дазвол вярнуцца назад у іхныя місыйныя станіцы на поўначы. Ніводзін новы місыянар не дапускаецца і зьверхнікі манашых чынаў ня маюць больш права распараджацца сьвятарамі. Калі камуністы адносяцца так да чужынцоў цяпер, у часе калі стараюцца паказаць сваё «вольнае аблічча», каб праз гэта здабыць прызнаньне вялікіх дзяржаваў, можна сабе ўявіць, што будуць рабіць тагды, калі іхняя ўлада будзе прызнанаю.

Пасьля ліквідацыі замежных місыянароў, камуністы плянуюць ліквідацыю **кітайскага духавенства.** Яны ўжо бяруцца за гэта цяпер. Кітайскія сьвятары ў вёсках ужо ня носяць сутанаў. Яны апранутыя ў стар'ё працуюць, як кальпартэры, падмятайлы вуліц, або якімісь работнікамі. Выконваць сьвятарскія абавязкі з дня на дзень становіцца цяжэй. Каб магчы адведваць вернікаў,

яны падарожнічаюць уначы, заўсёды мяняючы мейсца жыхарства і адпраўляючы Службу Божую ў памешканьнях вернікаў; пераважна ў бяднейшых, бо гэткія не баяцца нічога. Аднак хрысьціянам забаронена даваць начлег і карміць такіх сьвятароў. Выданы фармальны загад усім, каб даносіць аб такіх сьвятарох, калі яны зьявяцца да каго. Дык вернікі мусяць мець сапраўды больш чым гэройскую адвагу, каб прымаць сьвятароў, не зважаючы на гэткія загады. Часта хрысьціяне, якія вельмі адданыя да сьвятароў, баючыся даносаў, просяць сваіх душпастыраў, пакінуць іхнюю ваколіцу і схавацца дзесьці больш надзейна. Аднак тыя, якія слухаюцца такое рады і пакідаюць сваё поле працы, ужо толькі з вялікімі цяжкасьцямі могуць вярнуцца назад, бо яны дзеля гэтага мусяць запісацца ў паліцыі. Каб атрымаць такі запіс, абавязкава прайці дакладнае апытаньне, якое часам можа трываць да 32 гадзін без перапынку. Калі на вечнае пытаньне ўрадоўца: Ці вы камуніст? няшчасны ўканцы страціўшы цярплівасьць, скажа, што ён сьвятар і камуністам быць ня можа, дык адразу знойдзецца перад абвінавачаньнем у змове і за гэта яго засуджаюць на прымусовую працу пад наглядам камуністаў, якія не пакідаюць яго ні ўдзень ні ўначы.

Каб зьнішчыць сьвятароў, камуністы пастанавілі пазачыняць **сэмінарыі** а сэмінарыстаў змушаюць або йсьці ў войска, або жаніцца. Ужо больш палавіны вялікіх сэмінарыяў пазачынялі. Яшчэ існуюць толькі 6 ці 7, але і ў іх камуністычная рука прасьцягаецца так далёка, што робіць амаль немагчымым фармацыю маладых сьвятароў. У гэтых сэмінарыях бальшыня часу прысьвячаецца ручным працам і на курс марксізму. Што да ліку малых сэмінарыяў, дык яны ўжо ўсе зачынены за выняткам толькі аднае. Зрэштаю яны апусьцелі і бяз гэтага, бо пачаткавыя каталіцкія школы ўва ўсім Кітаю пазабіралі камуністы і тым самым унемагчымілі праяўленьне новых сьвятарскіх пакліканьняў. Адзіная малая сэмінарыя, якая яшчэ асталася гэта ў Кэнг Сін, аснавная Пэкінскім кардыналам Тіен. Яна мае 400 сэмінарыстаў, якія належаць да розных місыяў правінцыі Гопэй. Камуністы забаранілі ў сэмінарыі малітвы і навуку лацінскае мовы; дазваляючы гэта толькі ў спальнях. Яны нават стараліся ўвесьці ў сэмінарыю дзяўчат адпаведна да ліку вучняў, потым запрашалі сэмінарыстаў на танцы, якія ў камуністычнай прапагандзе займаюць паважнае мейсца. Пасьля няўдачаў абодвух гэтых праектаў яны абмежаваліся тым, што прыслалі ў сэмінарыю 100 паганскіх вучняў. Каб ратаваць усё тое, што яшчэ агулам магчыма ўратаваць з будучых кітайскіх сьвятароў і падрыхтоўваць іх на будучыню, вялікая колькасьць **студэнтаў** багасловіі і філязофіі пераведзены ў вольныя краіны: у сэмінарыю Гонгконгу, Макао, на Філіпіны, у Пэнанг, у Рым і ў Гішпанію.

**Манашкі** так-жа мусяць зьнікнуць. У гарадох яны яшчэ носяць сваю чарнечую вопратку, але на правінцыі яны ўжо найчасьцей зракаюцца «марнаваць матэрыял на вопраткі з шматлікімі паверхамі», паводля выславу камуністаў. Яны там апранаюцца пасьвецку. У шматлікіх мяйсцовасьцях камуністы прызначаюць ім кампаньёна, каб гэткім чынам змусіць іх да сужэнства.

У камуністычным рэжыме **рэлігійная свабода** сталася сумнаю камэдыяю. Калі звоняць званы — яшчэ тыя, якія ня змушаны да моўчанкі і не пазабіраныя — камуністы могуць зьявіцца ў сьвятыні і забавязаць вернікаў, якія прыйшлі на багаслужэньне, каб яны йшлі на нейкую неадкладную камуністычную зборку. Служба Божая дазволена, але і падчас яе можна ня раз бачыць камуніста, які качаецца на бар'еры да прычасьця і назірае за сьвятаром і за вернікамі. Ён можа падыйсьці да аўтара ў часе асьвячэньня і крычаць да сьвятара: «Што вы робіце?» Ён можа забараніць сьвятару прычашчаць, «бо гэта супярэчыць гігіене». Ён можа перарваць споведзь, каб спытацца, аб чым гутарылася ў спавядальніцы. Падчас багаславенства Найсьвяцейшымі Дарамі ён можа забавязаць сьвятара спыніць «свае забабоны» і выцягнуць яго на вуліцу ў арнатах і там перад натаўпам паганаў абвінавачваць яго, што «траціць час на забабонныя практыкі» і вымагаць ад яго выбачэньня. Калі-ж сьвятар з свайго боку паклікаецца на ўрачыста абвешчаную свабоду рэлігіі, дык пачуе ў адказ, што існуе яшчэ іншая свабода: свабода змаганьня супраць рэлігіі. Усе гэткія факты зьяўляюцца горкаю сапраўднасьцю!

Каталікі ў Кітаю ня маюць больш свабоды, нават свабоды маўчаць. Іх бязупынна выпытваць, каб даведацца, што яны думаюць аб камунізме. Вымінаючы адказ такога роду, як: «я аб гэтым нічога ня ведаю», ня прыймаецца і пытаючы мучыць сваю ахвяру цэлыя гадзіны, аж пакуль тая ня скажа, што ня можа належаць да бязбожнага і матэрыялістычнага камунізму. Але тады няшчасны засуджваецца, аднак не як хрысьціянін, ані як сьвятар, але як зраднік. Камуністы маюць загад з хрысьціян рабіць адступнікаў, але ніколі мучанікаў.

Так выглядае рэлігійнае палажэньне ў камуністычным Кітаю. Зрэштаю ў сапраўднасьці нельга гаварыць аб «Камуністычным Кітаю», бо больш чым 90% кітайцаў настроены рашуча няпрыхільна да новае ўлады. Калі яны ёй улягаюць, дык гэта дзеля таго, што спрытна зарганізаваная меншыня сіламоц апанавала народ зьнямоханы і выснажаны доўгімі войнамі. І гэтую ўладу меншыні, якая «вызваліла» Кітай, каб налажыць яму чужое ярмо, матэрыялістычнае і бязбожнае дыктатуры хочуць прызнаць вялікія дзяржавы?!»

# НА РЭЛІГІЙНАЙ НІВЕ

### ЛЁТНІК — СЬВЯТАРОМ.

Шырокаведамы амэрыканскі лётнік капітан Робэрт Левіс, які 6-VIII-1945 г. кінуў першую атамную бомбу на японскі горад Гірашыму нядаўна кінуў лётніцкую службу і згаласіўся ў каталіцкі манастыр, маючы на мэце стацца сьвятаром. Ён пры гэтам зазначыў, што толькі ў службе Богу можа знайсьці супакой сумленьня за сьмерць 100.000 ахвяраў атамнае бомбы.

### У ЧЭХАСЛАВАЧЧЫНЕ НАСТУП НА КАТ. ЦАРКВУ НЯ СПЫНЯЕЦЦА.

Паводля аднагодных вестак з Чэхаславаччыны наступ камуністычнае ўлады на Каталіцкую Царкву ня спыняецца. Арышты сьвятароў і суды над імі належаць да штодзенных зьявішчаў. Толькі ад лістапада мінулага году да студзеня г.г. лік арыштаваных сьвятароў ацэньваюць на 300 чалавек.

Пад гэткім націскам улады «запрошваюць» усё каталіцкае духавенства падпісаць формулу прысягі на вернасьць сучаснай уладзе бяз ніякіх дадаткаў.

Апошнім часам урадава паведамляюць з Прагі, што ўсё праскае каталіцкае духавенства мела падпісаць гэтую прысягу.

### 34 ЕРАРХІ У ЗЬНЯВОЛЕНЬНІ.

З «Папскага Гадавіка» на 1950 г. выяўляецца, што ў краінах «найбольшае рэлігійнае свабоды» за зялезнаею заслонаю знайходзіцца ў турмах і канцэнтрацыйных лягэрах 34 каталіцкіх ерархаў: 12 румынскіх, 7 украінскіх, 6 летувіскіх, 3 польскіх, 2 югаслаўскіх, 2 латыскіх, 1 эстонскі, 1 мадзярскі.

### АМЭРЫКАНСКІ СЬВЯТАР У МАСКВЕ.

Нядаўна прыехаў у Маскву амэрыканскі каталіцкі сьвятар а. Брасард асомпсыяніст на мейсца а. Лябэрг, які ў студзені мінулага году выехаў з Масквы і не атрымаў больш дазволу ад савецкіх уладаў вярнуцца назад.

а. Брасард будзе служыць у адзіным каталіцкім касьцеле сьв. Людовіка ў Маскве разам з францускім сьвятаром а. Іванам Томас. Абодва гэтыя сьвятары могуць абслугоўваць толькі каталікоў чужынцоў з дыплёматычнага корпусу ў Маскве. Для савецкіх грамадзян каталікоў ад мінулага году пры тэй-жа сьвятыні ёсьць сьвятар летувіс .

### НАПРУЖАНЬНЕ МІЖ КАТ. ЦАРКВОЮ І ДЗЯРЖАВАЮ У ПОЛЬШЧЫ.

Польскі міністар адміністрацыі Вольскі, прамаўляючы на адной зборцы дабрадзейнае каталіцкае арганізацыі «Харытас» у Варшаве, заявіў, што перагаворы між дзяржаваю і Каталіцкаю Царквою ад кастрычніка мінулага году не далі пажаданых вынікаў. Міністар усю віну за гэта складае на каталіцкіх ерархаў, быццам яны ўмысна адцягваюць перагаворы.

### ЦАРКВА НАД ГРОБАМ ПЕРШААПОСТОЛА.

У падзямельлях базылікі сьв. Пятра ў Рыме падчас рэканструкцыйных працаў знойдзена побач гробу ап. Пятра старую царкву. Цяпер ідзе прысьпешаная праца над упарадкаваньнем гэтае сьвятыні. У канцы лютага прадбачваецца заканчэньне рэканструкцыйнае працы і праўдападобна сам Сьвяцейшы Айцец Пій XII дня 2-га сакавіка ў адзінаццатыя ўгодкі свае каранацыі запачаткуе багаслужэньне ў гэтай адноўленай царкве Першаапостала.

---

# БЕЛАРУСКАЯ ХРОНІКА

## АНГЛІЯ.

### Антыбальшавіцкая дэманстрацыя ў Галіфаксе.

У горадзе Галіфакс дня 11-га сьнежня м. г. адбылася вялікая антыбальшавіцкая дэманстрацыя беларусаў, летувісаў і украінцаў. Дэманстранты са сваімі нацыянальнымі сьцягамі і плякатамі прайходзілі праз горад. Першай ішла беларуская калёна, нясучы вымоўны плякат з напісам: «З верай у Бога вызвалім Беларусь ад камунізму». Пасьля дэманстрацыі адбыўся мітынг у Вікторыя Галь. Шматлікія ангельцы прынялі так-жа актыўны ўдзел у гэтай дэманстрацыі. Уканцы маніфэстацыі быў прыняты пратэст супраць бальшавіцкага тэрору.

### Брашура аб Беларусі.

Згуртаваньне Беларусаў у В. Брытаніі выдала невялічкую брашуру аб Беларусі ў ангельскай мове. Брашура мае інфармацыйны характар, выдана на прыгожым паперу і мае арыентацыйную карту.

## АРГЭНТЫНА.

### З жыцьця З. Б. А.

Згуртаваньне Беларусаў у Аргэнтыне набыла уласнае памешканьне ў Буэнос Айрэс і дня 1-XII-49 перанесла туды сваё бюро. Сучасны адрас З.Б.А.: **Asociacion Bielorusa en la Argentina. Calle Coronel Sayos 2 981, — 4. de Junio, Buenos Aires.**

Там-жа адчынілася беларуская бібліятэчка, у якой можна чытаць беларускія кніжкі і часопісы, а некаторыя з іх і купіць.

Мастацкая сэкцыя пры З.Б.А. прыступіла да арганізацыі беларускага хору ў Буэнос Айрэс пад кіраўніцтвам І. Гэйхроха.

Пачынаючы ад сьнежня месяца м. г. Згуртаваньне пачало выдаваць на рататыры свой Інфармацыйны Бюлетэнь.

**Калядны вечар З. Б. А.**

Дня 7-га студзеня г.г. стараньнем управы З.Б.А. адбылася супольная сустрэча Калядаў для беларускае калёніі ў Буэнос Айрэс, у якім ўдзельнічала каля 100 асоб разам з прысутнымі гасьцямі.

Вечар распачаўся а гадз. 9-ай прывітальным словам старшыні З.Б.А. К. Мерляка, наступна прамаўляў беларускі сьвятар а. Макарэвіч. Прамоўца прыпомніў сабраным, што ўжо пятыя з чаргі Каляды праводзім адарваныя далёка ад сваіх найбліжэйшых ды сваё роднае, беларускае зямелькі. Далей ён выказаў найшчырэйшае жаданьне ўсіх: «Дай, Божа, каб гэтыя сьвяты былі апошнімі на чужыне і каб наступныя мы мелі шчасьце сьвяткаваць на сваёй вольнай і незалежнай Бацькаўшчыне».

Пасьля прамоваў усе прысутныя адсьпявалі супольную малітву і ў скупленай ды паважнай атмасфэры спажылі традыцыйную вячэру.

У міжчасе моладзь і старэйшыя адсьпявалі некалькі народных песьняў, як сымбаль лучнасьці з паняволеным родным краем. Гэтым самым іншанацыянальным госьцям далі нагоду запазнацца з часткай беларускага народнага багацьця, якім ёсьць народная песьня.

У часе Вячэры прамаўляў украінскі прадстаўнік арганізацыі «Відродженьня», які падкрэсьліў заўсёдныя дружныя і прыязныя адносіны абодвых суседніх народаў, якія ня раз на працягу гісторыі супольна зрошвалі братняй крывёю поле змаганьня за сваю незалежнасьць. Прамоўца выказаў моцнае і непахіснае перакананьне ў здабыцьці незалежнасьці абодвых народаў мо' нават у хуткай будучыні ў форме вольнае Беларусі і вольнае Украіны.

Вечар прайшоў у вельмі мілай і прыязнай атмасфэры. Вялікая колькасьць прысутных сьведчыць аб шырокай і плоднай дзейнасьці З.Б.А., аб росьце нацыянальнае сьведамасьці і аб зацікаўленьні нашых суродзічаў беларускімі справамі.

## ВАТЫКАН.

**Беларускія радыёперадачы.**

Ад калі перадаюцца па радыё прамовы Сьвяцейшага Айца ў перакладзе на розныя мовы, сёлета першы раз перадавалася калядная і адначасна Сьвятагодняя прамова Сьвяцейшага Айца Пія XII у 22 розных мовах, а між імі і пабеларуску.

Пачынаючы ад студзеня гэтага году Ватыканская Радыёстанцыя пачала надаваць сталыя аўдыцыі пабеларуску. Аўдыцыі перадаюцца кожную пятніцу а гадз. 18,30 сярэдняэўрапэйскага часу на кароткіх хвалях: 50,26; 41,21 і 31,10 мэтраў. Відаць аднак, што гэтыя радыёперадачы некай дзяржаве вельмі непадушы і дзеля гэтага вельмі перашкаджаюць.

## З. Ш. А.

**Выдавецкі Фонд.**

Падобна, як залетась у Францыі, так летась 20-XI у ЗША стараньнем сяброў Беларускага Задзіночаньня быў зарганізаваны ў Нью Ёрку Беларускі Выдавецкі Фонд у ЗША. Фонд прызначаны ў першую чаргу для падтрыманьня беларускае пэрыядычнае прэсы і наступна для выданьня кнігаў.

## НЯМЕЧЧЫНА.

**Япіскапская хіратонія.**

Беларуская Праваслаўная Аўтакефальная Царква дня 19-XII-49 перажывала свой гістарычны дзень. У праваслаўнай царкве Розэнгаймскага лягэру адбылася хіратонія ераманаха Васілія ў япіскапа. Акт хіратоніі выканалі 3 украінскія аўтакефальныя япіскапы ў саслужэньні шматлікага духавенства. Новахіратанізаванаму япіскапу прысвоена тытул Віленскага. Яп. Васілій у сьвецкім стане шырокаведамы інж. Уладзімер Тамашчык.

## ФРАНЦЫЯ.

**Супольная Куця.**

Беларуская калёнія ў Парыжу сустрэла сьвяты Нараджэньня Хрыста супольнаю Куцёю. Стараньнем ахвярных жанчын у салі красавалася прыгожа прыбраная ялінка, а на стале стаяла сапраўдная, традыцыйная беларуская куця. Пасьля супольнае малітвы і сьвяточнага прывітаньня прысутныя спажылі Сьвятую Вячэру, прасьпявалі не колькі беларускіх калядкаў і нарэшце пошта Дзеда Мароза кожнаму прынесла сьвяточны дарунак. Увесь вечар прайшоў у мілай сямейнай атмасфэры.

**Вясёлы Беларускі Вечар.**

Стараньнем парыскага адзьдзелу Незалежнае Арганізацыі Моладзі і пад кіраўніцтвам артыста Аўгеня Кавалаўскага дня 21-га студзеня адбылася ў Парыжу ў салі «Сосіетэ дэ Саван» канцэрт-вечарына пад назовам «Вясёлы Беларускі Вечар». Даволі багатая праграма вечарыны ўпоўні адказвала гэтаму назову і была ўдала выканана, робячы на прысутных вельмі прыемнае ўражаньне.

## БЕЛАРУСКАЯ ПРЭСА НА ЭМІГРАЦЫІ.

Не зважаючы на цяжкія і вельмі няспрыяючыя ўмовы, беларуская прэса на эміграцыі мае за сабою даволі паважныя асягненьні. У 1949 г. выходзіла 27 пэрыядычных часопісаў, хоць і не заўсёды рэгулярна; з іх 4 друкам. Агулам за пэрыяд 1945-49 выходзіла 67 розных часопісаў. Кніжак і брашураў у 1949 г. выйшла 21; агулам за пэрыяд 1946-49 выйшла 181.

## ПОШУКІ.

Праз Беларускую Харытатыўную Службу ў Нямеччыне шукаюцца наступныя асобы:

**Аляксеява** Івана нар. 1921 г., шукае Аляксеяў Еўдакія.

**Андрыенко** Нікалая нар. 1942 г. ў Кішынка і **Андрыенко** Марыю нар. Кінэбас 1916 г. у Кішынка шукае Жук Зіна.

**Андрожніка** Давіда нар. 1897 г. шукае зьвязковы афіцэр Ц. Пэсліер.

**Баранчук** Паўла нар. 1893 г. у Байкіўцы шукае Лотоцкая Наста.

Басілевіч нар. **Сяргеяву** Еўдакію нар. 1901 г. у Уфе шукае Нікіціна Марыя.

**Бязверхава** Василія нар. 1924 г. шукае Ткачэнко Пэлагея.

Бялецкую нар. **Новак** Анну-Тэрэсу нар. 1900 г. у Добрыне шукае Бялецкі Славіян.

**Бірулю** Кацярыну дач. Якава ў веку 50 г. шукае Невельскі Пятро.

**Боднар** Антона нар. 1912 г. у в. Алеева шукае Боднар Марыя.

**Бародзіча** Уладзіміра нар. 1921 г. у в. Белешы акр. Слуцкая шукае Буслаўскі М.

Брандт нар. **Судакову** Алену нар. 1891 г. шукае Судакоў Аляксандар.

**Цапа** Мікалая нар. 1909 г. у Дземенцы шукае Дапаможная Служба Нямецкае Эвангельскае Царквы ў Нямеччыне — Бэрлін.

**Хмелеўскага** Сыльвэстра нар. 1910 г. у в. Хунярцы шукае DP-Branch HQ. Land Niedersachsen Hannover c/o IRO. ITS British Zone Division.

**Данченко** Василія нар. 1890 г. на х. Шырокае шукае Кулік Уладімір.

**Драбеню** Марыю ў веку к. 50 г. з Баранавіч шукае Кацік В.

Дуброўскую нар. **Сьвірскую** Аляксандру нар. ў Лёсна, **Дуброўскую** Луізу нар. 1925 г. **Дуброўскую** Ольгу нар. 1921 г. шукае Лукашевіч Уладзімір.

**Еленэк** Анну нар. 1873 г. у Цемрук шукае Корнэліо Ольга.

**Фіндэклінг** Гэнрыетту нар. 1925 г. у Лубнях, і **Фіндэклінг** Фрэда нар. 1921 г. шукае зьвязковы афіцэр Ц. Пэсліер.

**Газюру** Гурыя нар. 1926 г. шукае Ант'юхава Елізавета.

**Галавіна** Уладзіміра нар. 1925 г. у Ноўгарадзе шукаюць урадава з Бэрліну.

**Горэпекіна** нар. 1912 г. у Эсентукі шукае Горапекін Апанас.

**Гросса** Фэрдынанда нар. 1908 г. ў Жаткі шукае зьвязковы афіцэр Ц. Пэсліер.

**Гурына** Лявона нар. 1922 г. у Лані акр. Нясьвіж шукае Гурын Даніла.

**Гайдаша** Дзімітра шукае Мошняк Марыя.

**Гонус** Мікалая у веку к. 24 г. шукае Рут **Гэльга.**

**Ярымовіча** Юрага нар. 1926 г. шукае Мандрык Юры.

**Яшчэнко** Ольгу ў веку к. 45 г. шукае Кавалеўскі Міхась.

**Яшчэнко** Мікалая нар. у 1911 г. шукае Зяленік Раман.

**Каноненко** Мікалая нар. 1913 г. шукае Камарніцкі Аляксандар.

**Карпук** Алену ў веку к. 60 гадоў з в. Цераховічы шукае Карпук Павал.

**Карташова** Іпація нар. 1901 г. у Гайнаўцы акр. Бельск шукае Карташоў Анатоль.

**Кінэбас Грыгора** с. Якава ў веку к. 81 г. з в. Кішынка, **Кінэбас** Даніла с. Грыгора нар. 1902 г. **Кінэбас** Хведара нар. 1908 г. **Кінэбас** Цімаха нар. 1910 г., **Кінэбас** нар. Санін Тэклю ў веку 46 г., Кінэбас нар. **Санін** Марыя у веку к. 33 г., **Кінэбас** Івана нар. 1924 г., **Кінэбас** Василя нар. 1926 г., **Кінэбас** Александра ў веку к. 10 г., **Кінэбас** Кацярыну нар. 1921 г., **Кінэбас** Надзю к. 8 г., **Кінэбас** Марыю к. 10 г., **Кінэбас** Любу к. 8 г., **Кінэбас** Андрэя к. 13 г., **Кінэбас** Ліду к. 11 г., **Кінэбас** Таццяна нар. **Томурка** к. 34 г. — шукае Жук Зіна.

**Канавалава** Інну нар. 1924 г. шукае Кірэй Аляксандар.

**Капіевскага** Івана нар. 1918 г. у Вознесенску шукае Гурыновіч Валентын.

**Коутаха** Віктара нар. 1927 г. шукае Эвэліна Барк.

**Краснова** Аляксея у веку к. 32 г. шукае Шульц, Уладзімер.

**Красмана** Уладзімера к. 12 г. нар. у Харкаве, **Красмана** Андрэя і **Красмана** Анну нар. у Александраве шукае Красман Фр.

**Караленко** Міхаіла к. 17 г., **Караленко** Ялоковету і **Караленко** Маньку шукае Караленко Галіна.

**Каваленко** Аўгеню нар. 1891 г. у Кобрыні шукае Сокалава Наталя.

**Крыўцоў** Уладзімера нар. 1922 г. у Менску шукае Крыўцоў Аляксандар.

**Крыштафовіч** Анну нар. 1891 г. у Падземіне шукае Чырко Васіль.

Купфер нар. **Генкі** Анну нар. 1897 г. у Новы Бікаў, Мадзяршчына, **Купфер** Боріш, **Купфер** Зандор, **Купфер** Дэшо шукае Купфер Мэйер.

**Лагоду** нар. Нікіну Елізавету нар. 1927 г. шукае Данская Ганя.

**Лескоў** Василя нар. 1926 г. у Барысаве шукае Лескоў Іван.

Левіна нар. **Уласаву** Анну нар. 1919 г. у Барысаве шукае Ключароў Клаўдзя.

**Лісоўскаю** Анну к. 22 годы шукае Лісоўскі Алесь.

**Лукашэвіч** нар. Алексінскую Ольгу нар. 1896 г., **Лукашэвіч** Івана нар. 1890 г. у Слоніме шукае Карпеньчык Аўгень.

**Лукашэвіч** Кацярыну нар. 1927 г. у Красная Воля шукае Лукашэвіч Іван.

**Масэр** Эмілю нар. 1903 г. у Таполічы шукае зьвязковы афіцэр Ц. Пэсліер.

**Маёраў** Віктара нар. 1900 г. у Вясьніні шукае Маёраў Анна.

**Міхайлава** Марыя нар. 1922 г. у в. Бушкі, Смаленскае акр. шукае Міхайлава А. Н.

**Мірановіч** Ванду-Марыю шукае Пікта Уладыслаў.

**Манглоўскага Івана** др. права нар. 1892 г. шукае Кутасоў Кляра.

**Марозава** Паўла нар. 1922 г. у Марыюпалі шукае Марозаў Іван.

**Насеньніка** Уладыслава нар. 1926 г. шукае Насеньнік Гордзій.

Невельскую нар. **Біруля** Алену нар. 1919 г., і **Невельскага** Барыса і Алеся шукае Невельскі Пятро.

**Нікіціна** Барыса нар. 1915 г. шукае Нікіціна Аксеня.

**Новікаву** Лелію нар. 1928 г. у Бабруйску шукае Новікава Лена А.

**Олексіенко** Міхаіла шукае гэн. маёр Юркін.

**Оўдзіенко** Парфірыя шукае Оўдзіенко Феодосі.

**Панфіловіч** Аркадзя к. 22 г. шукае Мазур Валентына.

**Паўлінаў** Марыю нар. 1921 г. шукае Паўлінаў М.

**Пішчук** Юлію нар. 1911 г. у Северску шукае Шклярук Уладзімер.

**Папугіна** Мікалая нар. 1899 г. шукае Будны Аляксандар.

**Парэцкую** Аўгеню нар. 1924 г. у Ганнэвічах акр. Лунінец шукае Парэцкі Міхась.

**Ратнэр** нар. Вайнштайн Рэсэлю к., 60 г., **Ратнэр** Шэля к. 30 г. шукае Фінк Рыва.

**Саніна** Паўла нар. 1915 г., яго жонка **Санін** нар. Кінэбас Хрыстыну ды іхныя дзеці **Санін** Веру і **Санін** Надзю шукае Жук Зіна.

**Шульман** Эстэру к. 40 г. з Рыбінска шукае Фінк Рыва.

**Сакалоўскага** Рыгора нар. 1926 г. шукае Барк Эвэліна.

**Салохіна** Рамана нар. 1923 г. шукае Салохін Міхась.

**Сорокапыта** Мікалая нар. 1914 г. у в. Лесьніцы пав. Наваградак шукае Сорокопыт Юзэфа.

**Шпайхэр** Язэпа к. 52 г. з Будсанава, **Шпайхэр Майсея** к. 48 г. і **Шпайхэр** Мэндаля к. 52 г. шукае Гэршэр Яніна.

**Шклярука** Аўгеню нар. 1916 г. шукае Шклярук Уладзімер.

**Сташук** Тацяну нар. 1915 г. шукае Сташук Кацярына.

**Статкевіча** Мікалая шукае Андрэеў Паўліна А.

**Тіхаміраву** нар. Мамаеву Зіну нар. 1891 г. у Беластоку шукае Нікіціна Марыя.

**Тіханоў** Габрыелю нар. 1893 г. у Выбаргу шукае Тіхонаў Сігрыд.

**Трафімовіча** Касіяна нар. 1900 г. і **Трафімовіча** Яраслава нар. 1899 г. у в. Каморы каля Пінска шукае Шукало Харытон.

**Чырко** Марыю нар. 1913 г. у Сьмедыне і яе дзецей: **Чырко** Надзю, **Чырко** Любу і **Чырко** Грыгора нар. у Кобрыне шукае Чырко Васіль.

**Вэндіна** Ігната нар. 1882 г. і **Вэндіну** Параску д. Васілія нар. 1896 г. шукае Вэндін Аляксандар.

**Вайцехоўскага** Сяргея з в. Данілава шукае Массаянаў-Мосальскі Аляксей.

**Вурганову** Ольгу нар. 1916 г. у Віцебску шукае Вурганоў Грыгор.

**Веселоўскага** Барыса-Сяргея нар. 1885 г. шукае Чырвоны Крыж — Жэнэва.

**Варабец** Васілія к. 53 г. шукае Курляк Вільгэльм.

**Варановіча** Юрыя нар. 1926 г. у в. Кіячэва шукае Разумоў Нікіта.

**Вуйкава** Міхала нар. 1907 г. у Гародніцы шукае Вуйкаў Стэпка.

**Закшэўскую** Марыю нар. 1908 г. у Паставах арк. Горадня і **Закшэўскага** Анатоля нар. 1933 г. у Віцебску шукае Сьвірыдаў Сяргей.

**Зарэцкую** нар. Гельман Маню нар. 1887 г. шукае Могуль Этэль.

**Зігмана** Віталія нар. 1925 г. у в. Падазоўка шукае Зігман Анна С.

У справе ўсіх вышэйпералічаных асобаў пісаць на адрас: Weissruthenisches Caritasdienst in Deutschland. (20 b) GOSLAR/HARZ, Sommerwohlenstr. 1. A. Germany. Brit. Zone.

---

**Ліс** Станіслаў шукае дваюрадных братаў **Ліса** Яся і **Дамінецкага** Даmініка, дваюрадных сёстраў: **Васілеўскую** Яніну, **Васілеўскую** Юзю, **Іваноўскую** Марысю, **Дамінецкую** Гэлю ды іхных мужоў, а так-жа знаёмых: **Скуратовіча** Франука, **Вароньку** Івана, **Вароньку** Пятра, **Вароньку** Паўла. Усе з Меншчыны.

**Бобако** Мікалай шукае свайго брата Бобаку Леаніда.

Пісаць на адрас рэдакцыі.

## ЗЬМЕСТ


| | |
|---|---|
| Сьвятагодняя прамова Сьвяцейшага Айца Пія XII — | 1 |
| В. Друя — Ты і яна (Працяг 9-ы) | 5 |
| а. Л. Гарошка — Патронка Беларусі | 9 |
| А. Гарабурда — Цэрквi, якія праваліліся скрозь зямлю | 10 |
| У чырвоным Кітаю | 11 |
| На рэлігійнай ніве | 13 |
| Беларуская хроніка | 13 |
| Пошукі | 15 |



Gérant : D. Kucopej.    Directeur : Abbé L. Horosco.

Impr. de Navarre, 11, rue des Cordelières, Paris.